наша
# свабода

№63 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 КАСТРЫЧНІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Лепш з сяброўкай на траве, чым такія маршы!

Павел КРЫЛЬСКІ

**Дзень быў ясны і цёплы. 15 тысяч чалавек сабраліся ў Мінску 1 кастрычніка на пляцы каля Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, для ўдзелу ў «Маршы Свабоды-2000». Калона дэманстрантаў была прыгожа аздобленая сцягамі і транспарантамі. І гэта амаль усё, што можна сказаць пра шырока рэкламаваную акцыю апазіцыі.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

«Вельмі крыўдна, я месяц налепкі гэтыя з заклікам прыйсці на «Марш» клеіў, знаёмых абтэлефаноўваў, абяцаў ім АКЦЫЮ, а выйшла...» – і гэта стандартны адказ маладых дэманстрантаў, што прысутнічалі на трэцім «Маршы».

А пачалося расчараванне з чарговага паседжання Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў. Прынятае раней рашэнне аб заканчэнні акцыі недзе ў самым цэнтры горада ці на плошчы Незалежнасці, ці на Кастрычніцкай плошчы, вырашана было перагледзець. Прыводзілася шмат довадаў: маўляў, калі «Марш» пройдзе па не санкцыянаваным уладамі маршруце, то людзі спужаюцца і пойдуць на выбары(?!), эксцэсы падчас «Маршу» саб'юць пратэстную хвалю і ў выніку не атрымаюцца акцыі 8 кастрычніка ў рэгіёнах і г.д. Але ўсе гэтыя довады выглядалі насамрэч як звычайная баязлівасць. А выказванні пра тое, што на Бангалор не хочуць ісці толькі радыкалы, якіх адзінкі і якім «месца ў іншых радыкальных арганізацыях, а не ў БНФ» – увогуле нейкі маразм. Ды не жадаў **ніхто** ісці на «сабачы выгул». Але ж на КРДС рашэнне аб так званым «мірным правядзенні акцыі» (быццам нехта прапаноўваў вайну?) было прынятае амаль аднагалосна. Катэгарычна «супраць» выступілі толькі Валянцін Голубеў, сябра БНФ, і кіраўнік аргкамітэта «Хартыі'97» Зміцер Бандарэнка. Яны прапанавалі годнае правядзенне акцыі па цэнтры горада, але былі жорстка раскрытыкаваныя («іш ты, Статкевічы новыя, спачатку людзей па вуліцах водзяць, а пасля на выбары ідуць») і пакінулі залу ў знак пратэсту. Больш за тое, назаўтра яны проста прабайкатавалі «Марш», бо не жадалі прысутнічаць пры смерці «ўласнаручна створанага дзецішча». Застаўшыся без працiўнікаў па спрэчках, кіраўнікі БНФ, АГП і СДП(НГ) хутка распрацавалі сцэнар «Маршу Свабоды-3» і з усведамленнем, што 1 кастрычніка ***нічога*** не будзе, разышліся па хатах.

Назаўтра нічога і не было. Частка маладых людзей сышла з акцыі ўжо на самым яе пачатку, бо не жадалі, па іх словах, «ганьбіцца паходамі ў сабачнікі. Лепш пойдзем на Камароўку піва піць». Шмат хто разыходзіўся па дамах ужо падчас самога кароткага шэсця. Мітынг звёўся да інструктажу, як трэба прагаласаваць 15 кастрычніка. Чарговы запэўніванні ў хуткай перамозе ды спроба натхніць прысутных воклічамі «Жыве Беларусь» – вось і ўся акцыя. Якая можа быць перамога з такімі дзеяннямі? Тым больш прыкра – што перад вачыма прыклад Югаславіі!

Але гэта так, эмоцыі падманутага дэманстранта. У любым выпадку, лепш бы гэтакага «Маршу Свабоды-3» не было. Бо правядзенне акцыі па сцэнары ўладаў дае ім магчымасць разважаць на ўвесь свет пра «разгул» дэмакратыі ў Беларусі, што можа істотна паўплываць на рашэнне аб прызнанні выбараў 15 кастрычніка. ■

«Марш Свабоды» 1 кастрычніка ў Мінску меў зайздросным фонам поспехі апазіцыі ў Югаславіі, дзе Слабадан Мілошавіч ужо фактычна загнаны ў пастку, адкуль наўрад ці выберацца.
По ўсёй краіне пачалася акцыя грамадзянскага непадпарадкавання

# Югаслаўская апазіцыя выйшла на вуліцы

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора ў 5 гадзінаў ранку па бялградскім часе югаслаўская апазіцыя пачала акцыю грамадзянскага непадпарадкавання па ўсёй краіне. Канвой з 70 аўтацягнікоў пры падтрымцы натоўпу перакрыў галоўную аўтамагістраль, якая вядзе да Бялграда. Жыхары Югаславіі выступаюць за адхіленне Слабадана Мілошавіча ад улады.**

Акцыя грамадзянскага непадпарадкавання, якая пачалася ўчора, прадугледжвае перакрыццё руху транспарту па ўсёй краіне, спыненне працы прадпрыемстваў, дзяржаўных установаў, школаў і інстытутаў. Учора ў Бялградзе ўжо не хадзіў грамадскі транспарт, вуліцы былі перагароджаныя аўтамашынамі, дзе-нідзе ўтвараліся сапраўдныя барыкады з бакаў для смецця. Перакрытыя масты праз Саву, якія злучаюць новую і старую часткі горада. Аўтамашыны таксама закрываюць пад'езды да прамысловых прадпрыемстваў. Апазіцыя плануе праводзіць акцыю грамадзянскага непадпарадкавання да таго часу, пакуль В.Каштуніца не будзе прызнаны новым законным прэзідэнтам Югаславіі.

Югаславы не даваряюць афіцыйным вынікам прэзідэнцкіх выбараў 24 верасня, паводле якіх цяперашні кіраўнік краіны атрымаў 40,23% галасоў выбаршчыкаў, а кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі Васлаў Каштуніца — 48,22% галасоў. Лідэры апазіцыі, спасылаючыся на выніку так званых *exit polls* (апытанні грамадзянаў на выхадзе з выбарчых участкаў), сцвярджаюць што Васлаў Каштуніца набраў 51,34% — супраць мілошавічавых 36,22%, і такім чынам стаў новым прэзідэнтам Югаславіі ўжо ў першым туры. Аднак Саюзная выбарчая камісія Югаславіі патрабуе правядзення другога тура выбараў 8 кастрычніка.

Шахцёры двух асноўных вугальных разрэзаў не сталі чакаць панядзелка – дня афіцыйнага пачатку акцыі грамадзянскага непадпарадкавання — і пачалі страйк ужо ў суботу. ▶

*Заканчэнне на стар.4*

## НАВІНЫ

■ **На полацкім вытворчым аб'яднанні «Шкловалакно» рабочыя ладзяць пікеты пратэсту.** Гэтак яны выказваюць сваё стаўленне да прымусовага пераводу на кантрактную форму працы. Справа ў тым, што запрапанаваныя кантракты прадугледжваюць удзел у сельскагаспадарчых працах і разнастайных суботніках, а таксама атрыманне зарплаты ў выпадку адсутнасці грошай натуральнай прадукцыяй.

■ **Не выключана, што бліжэйшым часам магілёўскія прадпрыемствы будуць завозіць людзей на працу на ўласным транспарце.** Такая прапанова прагучала ад старшыні Магілёўскага аблвыканкама Міхаіла Дражына. Гэта ён тлумачыць аварыйным станам, у якім апынуўся гарадскі аўтапарк: тут проста не стае спраўных машынаў. Але тым больш адкуль для перавозкі тысячаў людзей яны у прадпрыемстваў?

■ **На Магілёўшчыне метал пачалі красці проста кіламетрамі.** Так, днямі ў Касцюковіцкім раёне было знята аж 6, 5 кіламетраў дроту, а ў Хоцімскім – 1,1 кіламетра. Мясцовая міліцыя даводзіць, што гэта справа рук не мясцовых жыхароў, а расійскіх злодзеяў, якія з-за празрыстасці мяжы павадзіліся ездзіць красці да нас.

■ **Беларускія лясгасы збіраюцца яшчэ болей зарабляць на паляванні. Асноўная стаўка робіцца на замежнікаў.** Паводле праграмы развіцця паляўнічай гаспадаркі, разлічанай да 2005 года, прадугледжваецца, што ў кожным лясгасе будуць пабудаваныя спецыяльныя паляўнічыя домікі. Тут зробяць камфортныя ўмовы: душавыя, каміны, лазня. Валюта пойдзе самім лясным гаспадаркам. Адзін тур будзе каштаваць каля 2 тысячаў долараў.

■ **28 верасня ў мястэчку Івянец Валожынскага раёна ў музеі Дзяржынскага адкрылася выстава драўлянай скульптуры менчука Валерыя Калясінскага.** Гэта досыць вядомы скульптар, які, апрача дрэва, працуе таксама ў бронзе, кераміцы і камені. Напрыклад, бюст польскага караля і вялікага князя ВКЛ Стэфана Баторыя, што знаходзіцца ў гарадзенскім фарным касцёле, выраблены менавіта ім. Экспазіцыя, у якой каля 20 скульптураў, будзе працаваць да лістапада.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1045**



## Адыходзіць эпоха

**Аляксандар ДУБРАВІН**

Раней людзі былі намнога дабрэйшыя. Як паглядзіш на цяперашні свет, дык бачыш, што чалавечнасць ідзе на скон. От каб вы параўналі, то паедзьце куды далей на палескую вёску, дзе яшчэ жывуць старыя людзі, не надта скалечаныя сучаснай цывілізацыяй. Каторыя здабываюць хлеб уласным мазалём, ды моляцца штовечар Міколу Угодніку і Параскеве Пятніцы, ды шчыра вітаюцца з кожным чалавекам, якога пабачаць на вёсцы. Ёсць яшчэ такія.

Вы паглядзіце на іхнія прыветныя чысценькія хаткі, атачаныя садкамі, дзе пад яблынькамі густа цвіцуць скрозь усю восень вяргіні і боцікі. Націскаючы клямку, адчыніце шырокія дзверы, ступіце з сенцаў, спрэс застаўленых куфэрачкамі ды кубелачкамі, праз высокі парожак у светлы пакой на чысценькія самаробныя дарожкі. Там пабачыце лавы паўз сцены, засланы абрусам стол, печ, іконкі ў кутку. А збоку на сцяне – фотаздымкі ў рамцы. Зараз так не робяць, каб усе самыя дарагія вывы былі разам, пад адным шклом. І пачнеш глядзець на гэтыя здымкі і не можаш адарвацца. Вунь — будзёнаўскі шлем на галаве, а на нагах абмоткі, — мусіць, старэйшы брат гаспадара, што загінуў даўно, яшчэ той зімой, калі Варашылаў праводзіў пад Гомелем манеўры. А далей убачыш бацьку гаспадыні – у ваенным картузе і партупеі – зладжыў галаву на фінскай. А во і сам гаспадар, малады, яшчэ крыху задаваста, з рушніцай у руках стаіць недзе ў Прусіі на фоне невялікага чубатага канька і пазірае задаволена на здымшчыка, нібыта гаворыць: «Бачыш, братка, дзе нашы людзі бываюць?». А во пазнейшыя здымкі: іхнія дзеткі, унучкі. Малыя, падшыванцы, падшпаркі. Во яны жэняцца, во прысягу прымаюць. А збоку невялічкі шэранькі здымак, зроблены, мабыць, «Сменай» — старэнькая бабулька, кволенькая — адзін толькі нос і губкі — ляжыць ужо бедная ў труне, злажыўшы на грудзях худзенькія, пагнутыя цяжкай працай цёмныя рукі, падобныя на галінкі дрэва.

І што такое! Што ў тых здымках ёсць, калі не можаш адвесці позірка і разглядаеш, разглядаеш, разглядаеш гэтыя чыстыя, шчаслівыя, добрыя, амаль святыя твары? Адкуль гэтая лагоднасць у іх позірках, калі часіны тыя былі неверагодна цяжкія, страшныя, агідныя? І як параўнаць іх з тварамі нашых сучаснікаў? З невыразнымі вачыма, сціснутымі губамі, зацятымі позіркамі? З адной толькі неадступнай думкай на твары: вузка, цесна, мала!

Мусіць, губляем мы зараз, на пераправе, нешта вельмі істотнае ў нашым менталітэце. Нейкую важкую частку, без якой мы ужо, быццам, і не беларусы. У чым яна? У мове, у веры, у традыцыях? Ці то проста адыходзіць эпоха?

## Правал на «ўсходнім напрамку»

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Наглядальнікаў з Кітая на выбарах дэпутатаў палаты прадстаўнікоў не будзе. Пра гэта ў канцы мінулага тыдня заявіла пасол КНР у Мінску У Сяоцю. На прэс-канферэнцыі з нагоды 51-й гадавіны ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі пасол дыпламатычна давяла да ведама беларускіх уладаў, што, нягледзячы на прыязныя адносіны паміж Беларуссю і Кітаем, апошні не збіраецца дасылаць сваіх наглядальнікаў на выбарчы фарс. «Мы сапраўды атрымалі запрашэнне, просьбу прыслаць наглядальнікаў. Вы ведаеце, у нас дагэтуль няма практыкі пасылаць наглядальнікаў у іншыя краіны. Выключэнні могуць быць толькі ў рамках ААН», — заявіла У Сяоцю. Кітай не мае намеру мяняць свае традыцыі і гэтым разам. Тым самым пасол разбурыла міф афіцыйнай прапаганды пра дыпламатычны прарыў на «ўсходнім напрамку».

Крыху раней прэзідыум Сейма суседняй Латвіі таксама забараніў тром дэпутатам з прарасійску настроенай фракцыі «За правы чалавека ў адзінай Латвіі» ехаць наглядаць за беларускімі выбарамі 15 кастрычніка. Спікер Сейма Яніс Страўмэ заявіў, што ва ўмовах міжнароднай ізаляцыі Беларусі паездку дэпутатаў Андрэя Кляменцьева, Юрыя Сакалоўскага і Аляксандра Голубава на беларускія выбары трэба забараніць. ■

## Беларусы сёння – старэючая нацыя

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

1 кастрычніка адзначаўся дзень пажылых людзей. Імі лічацца тыя, каму ад 60 гадоў і болей. А такіх у краіне зараз ажно 1,8 мільёна чалавек.

Гэта амаль што чвэрць насельніцтва. Наогул беларусы – адна з самых старых нацыяў у свеце. Прычым ейнае старэнне будзе працягвацца. У той час, калі ў 1989 годзе на 100 працаздольных асобаў прыпадала 33 чалавекі, то, напрыклад, на сёння ўжо 50 чалавек, а праз прыкладна 7-15 гадоў гэтыя паказчыкі могуць нават зраўняцца. Справа ў тым, што менавіта праз гэты тэрмін на пенсію выйдуць народжаныя ў канцы 40-ых і ў пачатку 50-ых гадоў, калі пасля вайны назіраўся ўздым нараджальнасці.

Тады, калі мы мусім не забывацца саступаць старым месца ў транспарце ці «званіць бацькам», дзяржава павінна плаціць прыстойную пенсію. Але зараз у сярэднім – для паловы пенсіянераў – яна складае каля 30 тысячаў рублёў, мінімальная – менш 17 тысячаў, а самая вялікая – крыху сягае за 46 тысячаў рублёў.

Між іншым, як кажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Вольга Даргель, павелічэння пенсіяў варта чакаць толькі ў лістападзе. ■

## Переговоры по турецкому кредиту продолжаются

**Василий ЯКОВЛЕВСКИЙ**

В Минск прибыла делегация турецкого «Эксимбанка». Предполагается, что во время предстоящих переговоров с белорусской стороной должен быть окончательно решен вопрос с выделением кредита в 20 миллионов долларов.

Решение о выделении Турцией кредита Беларуси было принято на высшем уровне еще несколько лет назад. Однако на протяжении всего этого времени реализации этого решения мешало то, что турецкая сторона никак не могла получить удовлетворительные бизнес-проекты. Дело сдвинулось с мертвой точки после того, как главе белорусского государства удалось вновь переговорить на тему кредита с турецким президентом во время Стамбульского саммита в прошлом году и последующим в январе рабочим визитом в Анкару вице-премьера Беларуси Урала Латыпова. Будучи сопредседателем белорусско-турецкой комиссии по торгово-экономическому сотрудничеству, У.Латыпов предоставил турецкой стороне ряд проектов белорусских предприятий, которые бы могли претендовать на кредит «Эксимбанка». После изучения проектов и приехала в Минск делегация турецких банкиров, которая может подписать соответствующее соглашение. ■

## У «Цэнтральным» – рэканструкцыя



Фота Ул.ШЛАПАКА

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

З 1 кастрычніка сталічны кінатэатр «Цэнтральны» на два гады зачыняецца на капітальны рамонт. Дакладней, на рэтрарэканструкцыю, у выніку якой яму будзе вернуты аўтэнтычны выгляд. Справа ў тым, што камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры надаў «Цэнтральнаму» статус помніка архітэктуры. Рэканструкцыйны план, распрацаваны «Белпраектам», прадугледжвае пераахдобу фасада і фае кінатэатра на ўзор 1956 года, калі і быў узведзены будынак, дзе разам з жылымі паверхамі размясціўся кінатэатр.

А вось глядзельную залу падчас рэканструкцыі пераробяць на сучасны манер. У прыватнасці, тут павялічаць сцэну, усталююць гукавую сістэму *Dolby stereo* і паставяць тэатральныя крэслы. Праўда, пры гэтым колькасць глядзельных месцаў скароціцца з 400 да 280, бо новыя крэслы шырэйшыя за старыя. Апроч таго, мяркуецца адрамантаваць камунікацыйныя сеткі кінатэатра.

«Цэнтральны» стане пятым пасля «Аўроры», «Масквы», «Міру» і «Кастрычніка» кінатэатрам у Мінску, дзе будзе праведзены больш-менш грунтоўны рамонт. У астатніх (а ўсяго ў сталіцы 19 кінатэатраў) час ад часу ладзіцца адно што касметычныя рамонтныя работы. Дырэктар «Кінавідэапракату» Васіль Коктыш кажа, што з-за адсутнасці належнага фінансавання за прыярытэтныя ў гэтым плане ўважаюцца менавіта тыя кінатэатры, што знаходзяцца ў цэнтральнай частцы горада.

Васіль Коктыш лічыць, што за савецкім часам кінатэатры будаваліся «што палацы», занадта грувасткімі і чамусьці як да «клімату Сочы». У іх прадугледжанае толькі калярыферная ацяпленне. У выніку ў халодную пару людзі на кінасеансах проста мёрзнуць. Напрыклад, нават у прыстойна выглядаючым «Кастрычніку», каб не ацяпляць вуліцу, сцены са шкла трэба змяніць на шклапакеты.

Прывядзенне кінатэатраў у парадак – як абнаўленне тэхнічнага абсталявання, так і паляпшэнне вонкавага выгляду – яшчэ адзін важны фактар (разам з рэпертуарнай палітыкай, зразумела), што ўплывае на кінаглядацкую наведвальнасць. Сёе-тое робіцца – таму нездарма колькасць гледачоў з 1 мільёна чалавек у 1997 годзе падвысілася сёлета больш як удвая. ■

## Крычаў і цэмент

**Андрэй КУЗЬМІН**

Як вядома, Крычаў славуты вырабам будаўнічых матэрыялаў. Шмат іх тут выпрабляюць. І адзін з гігантаў усёй беларускай прамысловасці — Акцыянернае таварыства «Крычаўцэментнашыфер», і завод жалезабетонных вырабаў, і асфальта-бетонны завод... Смела можна сцвярджаць, што вытворчасць будаўнічых матэрыялаў з'яўляецца падмуркам дабрабыту і крыніцай існавання не толькі Крычава, але і ўсяго Крычаўскага рэгіёна.

На жаль, сёння сітуацыя з гэтай, адной з найбольш важных галінаў прамысловасці, пакідае жадаць лепшага. Прадпрыемствы, што так ці інакш звязаныя з будаўнічымі матэрыяламі, не толькі не развіваюцца, але і год ад году дэградуюць. Прыкладам гэтага можа служыць паслядоўнае зніжэнне вырабу крычаўскага шыферу і цэменту — асноўнага прадукту АТ «Крычаўцэментнашыфер». Толькі ў гэтым годзе, у параўнанні з мінулым, было выпушчана на 30,2 % менш шыферу і на 22,7 % — цэменту.

Нездарма падчас наведвання Крычава прэм'ер-міністрам Ярмошыным было прынятае прынцыповае рашэнне па рэарганізацыі разгалінаванага аб'яднання «Крычаўцэментнашыфер» у простым завод.

А што тычыцца канструкцыяў са зборнага жалезабетону, то тут увогуле можна казаць пра катастрофу. Іх выраблена толькі 56,3 % ад мінулагодніх паказчыкаў.

Тэндэнцыя да пагаршэння становішча назіраецца вось ужо 6 гадоў запар. ■

## Расійская падтрымка афіцыйнага Мінска

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Дзяржаўная дума Расіі адказала згодай на запрашэнне Анатоля Малафеева паназіраць за ходам выбараў у палату прадстаўнікоў. 26 верасня Дзярждума сфармавала дэлегацыю «наглядальнікаў». У яе ўвайшлі Франц Клінцэвіч з фракцыі «Адзінства», Святаслаў Сокал ад КПРФ, Міхаіл Мусатаў і Юрый Мамонаў ад ЛДПР, Валерый Разанскі ад фракцыі «Отечество — Вся Россия», Вячаслаў Ігруноў ад «Яблока», Мікалай Касцерын (Аграпрамысловая дэпутацкая група), Мікалай Сухі з дэпутацкай групы «Народный депутат», Валянціна Іванова і Георгій Ціханаў ад «Регионов России», старшыня камітэта па справах СНД і сувязях з суайчыннікамі Барыс Пастухоў. У склад дэлегацыі, апроч таго, уключаныя тры супрацоўнікі апарата Дзярждумы.

Расія – адна з нямногіх краінаў свету, якая падтрымлівае рэжым Аляксандра Лукашэнкі і прызнала палату прадстаўнікоў пасля антыканстытуцыйнага рэферэндуму 96-га года. Таму не было ніякага сумневу, што Расія падтрымае свайго «саюзніка» ў наджзвычай цяжкі для яго час. ■

## Цяжка хворыя дзеці чакаюць дапамогі

**Марат ГАРАВЫ**

Мінск, 29 верасня. Мінскае гарадское грамадскае аб'яднанне «Дзяцінства — дзецям» звяртаецца да грамадскасці па дапамогу для лячэння цяжка хворых дзяцей.

Гэтая арганізацыя створаная сёлета бацькамі дзяцей, якія пакутуюць на хранічныя захворванні нырак і дзяцей-інвалідаў; 8 жніўня яна была зарэгістраваная Мінгарвыканкамам. Як паведаміла БелаПАН старшыня праўлення аб'яднання Наталля Бадзіловіч, сёння «Дзяцінства — дзецям» аб'ядноўвае 30 сем'яў, у якіх дзеці страцілі ныркі або знаходзяцца на мяжы гэтага. Апрача таго, у аб'яднанне ўваходзяць бацькі некалькіх сляпых дзяцей, а таксама дзяцей з правінцыі, якія шмат гадоў ляжаць у 2-й дзіцячай клінічнай бальніцы Мінска на гемадыялізе (г.зн. падключаныя да апарату «Штучная нырка»). Сем'і, якія ўвайшлі ў аб'яднанне, у асноўным няпоўныя, прычым маці не могуць працаваць, бо занятыя доглядам за хворымі дзецьмі.

Па словах Наталлі Бадзіловіч, шасцёра дзяцей, якія пакутуюць на вострую ныркавую недастатковасць, зараз знаходзяцца ў рэанімацыі ў вельмі цяжкім стане. Для іхняга лячэння неабходны іголкі, кровакатэтары, кроваправодзячыя магістралі і медыкаменты, якіх у айчынных медустановах няма. У сувязі з гэтым аб'яднанне просіць грамадскасць дапамагчы пакутуючым дзецям.

Кантактныя тэлефоны ў Мінску: 213-59-33, 213-52-34; адрас арганізацыі: 220036, г. Мінск, вул. Розы Люксембург, 103. ■

БелаПАН

# Адвакат Паганяйла супраць старшыні ЦК Ярмошынай

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Вядомы адвакат і праваабаронца Гары Паганяйла паставіў пад сумніў правамоцнасць Цэнтральнай камісіі па выбарах, якую з 1996 года ўзначальвае Лідзія Ярмошына. Спадар Паганяйла ўпэўнены, што Лідзія Ярмошына займае пасаду старшыні незаконна, паколькі, прызначаючы яе на гэтую пасаду, Аляксандр Лукашэнка ў снежні 1996 парушыў Канстытуцыю. (Гаворка нават не пра асноўны закон ўзору 1994 года, адданасць якому захоўвае апазіцыя, а пра канстытуцыю з папраўкамі, прынятымі на рэферэндуме). Вядомы адвакат сцвярджае, што Лукашэнка папярэдне не ўзгадніў кандыдатуру Ярмошынай з саветам рэспублікі лукашэнкаўскага парламента, як таго патрабавала ягоная канстытуцыя. (Відаць, сам не паспеў яшчэ прачытаць). Паводле адваката, былі парушаныя і іншыя правілы фармавання і дзейнасці Цэнтральнай камісіі па выбарах. У прыватнасці, адзін з яе сябраў Пётр Міклашэвіч не сышоў з камісіі, калі быў прызначаны суддзём Вярхоўнага суда, што трэба было зрабіць паводле закона.

Якой будзе рэакцыя на «вынаходніцтва» адваката? Вярхоўны суд, якому Гары Паганяйла прапанаваў ініцыяваць праверку паўнамоцтваў Цэнтральнай камісіі ў Канстытуцыйным судзе, просьбу адваката не задаволіў. Канстытуцыйны суд таксама маўчыць. Начальства на самым версе кажа, што Паганяйла проста помсціць Ярмошынай за тое, што яго не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты. Сам адвакат упэўнены, што праблема існуе, але вырашаць яе ўлады не збіраюцца, паколькі тады прыйдзецца спыняць усю перадвыбарчую кампанію і пачынаць выбары нанова. А ўладам гэта не па сілах. Аднак Гары Паганяйла не лічыць магчымым саступіць і забыць пра «праблему Ярмошынай», нават улічваючы бесперспектыўнасць сённяшніх атак на яе. «Наперадзе прэзідэнцкія выбары, няўжо мы дазволім праводзіць іх гэтай жа неправамоцнай камісіі? Гэтага нельга дазволіць», – заяўляе Гары Паганяйла. ■

# Беларускія габрэі справодзілі «антысеміцкі» год

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

**У ноч з 29 на 30 верасня габрэі ўсяго свету адзначылі надыход Новага года, 5761-ага па ліку паводле іудаісцкага календара. Па традыцыі свята суправаджаецца адмысловымі рытуаламі.**

І не толькі звычайнымі малітвамі ў сінагогах, якія, напрыклад, у Мінску месцяцца на вуліцах Даўмана і Крапоткіна. У нядзелю тут можна было чуць, як урачыста трубілі ў баранавыя рогі. А напярэдадні, у суботу, у габрэяў прынята есці яблыкі з мёдам, прамаўляючы такія словы: «Няхай будзе воля твая, Божа, даць нам добрага і салодкага года». А таксама выпраўляцца на сажалкі і рэчкі, дзе яны выварочваюць і вытрасаюць у ваду кішэні. Гэтак выглядае сімвалічны акт пазбаўлення грахоў – тыя нібыта асядаюць на дно. Справа ў тым, што з суботы ў габрэяў настаюць 10 дзён пакаяння, калі яны мусяць каяцца ў грахах як перад Богам, гэтак і адзін перад адным, бо, як лічыцца, без чалавечага прабачэння не даруе і Бог.

Гэтымі выхаднымі Новы год святкавалі 28 тысячаў беларускіх габрэяў. Менавіта столькі іх паводле дадзеных летасняга перапісу насельніцтва. Дарэчы, па перапісе 1989 года габрэяў у Беларусі было ў некалькі разоў болей. Гэта вынік, як кажа прэзідэнт Сусветнага згуртавання беларускіх габрэяў Якаў Гутман, іхняга «галасавання нагамі», то бок, масавай эміграцыі.

На ягоную думку, асабліва «мінулы – ад верасня да верасня – год быў не самым лепшым для беларускіх габрэяў. Узмацніўся антысемітызм, у тым ліку дзяржаўны. Улады не ўжываюць аніякіх захадаў супраць праяваў антысемітызму і такім чынам салідарызуюцца з тымі, хто распальвае нацыянальную варажнечу і сее «зубы дракона». Дастаткова ўзгадаць судовы працэс з апраўдальным вердыктам па антысеміцкай кнізе «Па законах вайны» і шматлікія выпадкі абмалёўвання дзвярэй кватэраў, дзе жывуць габрэі, зоркамі Давіда (пра ўсё гэта сёлета НАША СВАБОДА пісала). ■

# Новыя ідэі «Новых імёнаў»

**Алена ЛАБАНАВА**

**З 14 верасня па 1 кастрычніка ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў, а прасцей кажучы, у мінскім Палацы мастацтва прайшла II Рэспубліканская выстава маладых мастакоў «Новыя імёны».**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Першая падобная выстава праводзілася ў 1998 годзе і мела назву «Час. Прастора. Асоба». Сёлетняя, у якой бралі ўдзел маладыя мастакі ва ўзросце да 35 гадоў з усёй краіны, выдалася больш буйной. Экспазіцыя месцілася на двух паверхах і зьмяшчала ўсе жанры і плыні традыцыйнага і сучаснага мастацтва.

Паглядзець было на што: мастацкая фантазія буяла. Найбольшую цікавасць наведвальнікаў выставы прыцягваў унітаз з убудаваным у яго і ўвесь час працуючым тэлевізарам. Бабулькі-ахоўніцы пераважна бавілі час менавіта каля яго. Звычайна былі ўключаныя расійскія каналы, але пры жаданні можна было перашчоўкнуцца і на адзіны наш. Напрыклад, пабачыць і паслухаць, як вяшчае з «тэлеўнітаза» той, хто болей за ўсіх беларусаў з'яўляецца на экране БТ.

28 верасня былі падведзеныя вынікі конкурсу, што праходзіў у межах выставы. Журы назвала пераможцаў у 8 намінацыях: жывапіс, скульптура, кераміка, габелены і роспіс па тканіне, авангарднае мастацтва, канцэптуальнае мастацтва, а таксама самы юны ўдзельнік. Кожны з іх атрымаў дыплом і фарбы ад кампаніі *Schwarzkopf & Henkel*. Гран-пры — каляровы тэлевізар – урачана Андрэю Басалыгу, перавагу якому журы аддало аднагалосна. Пры гэтым яно асабліва падкрэсліла, што такі выбар быў зроблены зусім не таму, што малады мастак — сын вядомага беларускага графіка, а да ўсяго намесніка старшыні Саюза мастакоў і члена журы Уладзіміра Басалыгі..

Сваіх пераможцаў па ўсіх намінацыях вызначыў і Фонд па падтрымцы культуры і мастацтва. Але пры гэтым сумы грашовых прэміяў вельмі мізэрныя, а таму нават не абнародаваліся (на ўсіх выдаткавана ўсяго каля 800 долараў). Дапамагло грашыма, вызначыўшы 3 лепшыя ад сябе, прадстаўніцтва ААН у Беларусі. А аўтарам 12 работ было прапанавана ўзяць удзел у стварэнні календара на наступны год.

Самай прыемнай навіной стала выдзяленне Фондам па падтрымцы культуры і мастацтва грашовага гранта на выданне каталога работ маладых мастакоў, а самым вялікім расчараваннем – тое, што чакаць паабяцанага давядзецца год, а то і больш. Але, як аказалася, на гэтыя грошы асабліва ніхто і не разлічваў. Так, прагучала ініцыятыва зрабіць усё сваімі сіламі і сродкамі: па-першае, скінуцца па 10-15 долараў, па-другое, скарыстацца на гэтую справу сяброўскія ўнёскі ў Суполку маладых мастакоў.

Рэкламавацца і выстаўляцца для маладых мастакоў вельмі важна. Для дзяржавы таксама – інакш таленты будуць рабіць гэта за мяжой. На жаль, такая тэндэнцыя да гэтага ёсць. ■

# «Каменданцкі час» дзейнічае

**Зміцер БУЛАЙ**

**Па ўсёй Беларусі працягваюцца затрыманні грамадзянаў, якія заклікаюць не ісці на выбары-2000. На гэты раз «адзначыліся» жодзінскія міліцыянты, якія 27 верасня затрымалі з налепкамі «Байкот-2000» 17-гадовага сябра мясцовай моладзёжнай суполкі ТБМ-БЗМ «Ліцьвіны».**

Паўла Красоўскага нарад міліцыі затрымаў, так сказаць, ля «роднага» дома. У 22.40 непаўналетнім знаходзіцца на вуліцах Жодзіна нельга, у мэтах барацьбы з падлеткавай злачыннасцю быў уведзены гэтак званы «каменданцкі час». А Павел тым часам, не маючы ніякіх падазрэнняў, разам з іншымі падлеткамі спяваў на лаўцы песні пад гітару.

Міліцыянты нечакана вынырнулі з цемры, усе падлеткі былі пастаўленыя тварам да сцяны і абшуканыя. Падчас вобыску ў Паўла знайшлі налепкі «Байкот-2000», «Абаронім наш край». Астатніх падлеткаў адразу ж адпусцілі. Павел Красоўскі трапіў у пастарунак прыкладна праз гадзіну. Гэты час з ім праводзілі псіхалагічную «апрацоўку» непадалёку ад месца затрымання. Яго прымушалі даць паказанні, быццам бы ён атрымліваў ад старшыні мясцовай суполкі ТБМ сп.А.Лапіцкага грошы за распаўсюджванне па горадзе.

Толькі калі пераваліла за гадзіну ночы, 17-гадовага хлопца ягоныя бацькі забралі з пастарунка дадому. ■

# Ездзіць у Вялікабрытанію стане прасцей

**Аляксандра УСЦІНОВІЧ**

**Амбасада Вялікабрытаніі абвясціла пра змяненне візавай палітыкі ў дачыненні да замежных грамадзянаў, якія пажадаюць наведаць Злучанае Каралеўства. У той час, як увесь свет ускладняе парадак уезду для жыхароў Усходняй Еўропы, англічане яго спрашчаюць.**

Новы парадак пачаў дзейнічаць з 2 кастрычніка. Асноўных змяненняў два. Першае — калі да гэтай пары брытанская амбасада выдавала грамадзянам менавіта візы, маючы на ўвазе, што не пярэчыць супраць уезду, а само дазваленне выдаваў супрацоўнік эміграцыйнай службы ў брытанскім аэрапорце або на вакзале, то цяпер віза, выдадзеная вам у амбасадзе, аўтаматычна дае дазвол быць допушчаным у краіну.

І другое істотнае змяненне. Вы маеце магчымасць пакідаць Вялікабрытанію і вяртацца назад столькі разоў, колькі вам спатрэбіцца на працягу ўсяго тэрміну існавання візы. Стандартны час дзеяння візы – шэсць месяцаў. Кошт новай візы пры гэтым застаўся нязменным – 50 долараў, або 52 тысячы 800 беларускіх рублёў.

У консульстве Вялікабрытаніі ў Беларусі нам паведамілі, што не зменіцца і тэрмін афармлення дакументаў. Ён складае дзень-два, калі ўсе патрабуемыя дакументы знаходзяцца ў парадку. І яшчэ адно: замест старой увялі новую форму анкетаў, якія неабходна запоўніць кожнаму, хто мае намер наведаць Вялікабрытанію. ■

# Бяззубыя прафсаюзы выцерпяць усё

**Рыгор БУЯН**

Напярэдадні з'езда, запланаванага на 10-11 кастрычніка, Федэрацыя прафсаюзаў (ФПБ) аказалася ў цэнтры чарговага скандалу. Мінулым тыднем, 27-28 верасня, падатковая інспекцыя «не без ведама адміністрацыі прэзідэнта», як лічыць старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, блакіравала разліковыя рахункі ФПБ, што па сутнасці азначае параліч Савета Федэрацыі. У заяве для СМІ У.Ганчарык называе падобныя дзеянні ўладаў «заранёй спланаванай правакацыяй, спробай напярэдадні з'езда ФПБ дыскрэдытаваць буйнейшае прафсаюзнае аб'яднанне і яго кіраўніцтва». «Пратэстуючы супраць падобнага кшталту дзеянняў, якія з'яўляюцца чарговым звяном у нагнятаемай антыпрафсаюзнай кампаніі, патрабуем неадкладна пакласці канец праяўленням самавольства і беззаконня ў адносінах да ФПБ», — гаворыцца ў заяве старшыні Федэрацыі. Гэта ўжо другая спроба за апошнія паўтара месяца паралізаваць дзейнасць ФПБ эканамічнымі сродкамі – у жніўні падатковыя службы ўжо «арыштоўвалі» рахунак кіраўніцтва справаў ФПБ...

Гэтыя скандалы з серыі так званага «процістаяння» ўлады і прафсаюзаў пачынаюць пакрысе прыядацца. Бо па сутнасці ніякага процістаяння няма: улада беспярэшкодна і адкрыта душыць ФПБ. Пачынаючы з 27 красавіка, калі пад кіраўніцтвам Міхаіла Мясніковіча на сталічным сходзе дырэктарскага корпуса да прафсаюзнага актыву правалілася спроба раскалоць прафсаюзы, урад не спыняў мэтанакіраванай палітыкі на прыцісненне ФПБ. Напачатку самым нахабным чынам была зроблена спроба замяніць дзеючага старшыню прафсаюза АПК Аляксандра Ярашука былым міністрам сельскай гаспадаркі. Няўдала. Праваліліся спробы замяніць няўгодных лідэраў АСМ Аляксандра Бухвостава ды РЭПа Генадзя Фядыніча. Ізноў правал. У жніўні «арыштавалі» рахунак кіраўніцтва справаў ФПБ, цяпер – чарговы «наезд». За пяць месяцаў бесперапыннага ціску ФПБ і пальцам не паварушыла, каб абараніць самую сябе. Пасля кожнага «наезду» склікалі прэс-канферэнцыі ды скардзіліся журналістам на парушэнне правоў. А толку? Хапіла, праўда, яшчэ смеласці паскардзіцца ў Міжнародную арганізацыю працы (МАП) на парушэнне прафсаюзных правоў. Дэлегацыя Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў падчас ліпеньскага візіту ў Мінск прыгразіла ўраду верагоднасцю эканамічных санкцыяў; пасля выбараў, магчыма, прыедзе на Беларусь і дэлегацыя МАП, якую ўрад адмовіўся прыняць у верасні. Ну і што: праблемаў не паменела і не паменее. Міжнародныя структуры ды прафсаюзны рух мог бы дапамагчы ў барацьбе беларускіх прафсаюзаў за свае правы, але ніхто ніколі рашаць прафсаюзныя праблемы замест саміх прафсаюзаў не будзе.

Па вялікім рахунку, «процістаянне» ўладаў з прафсаюзамі нагадвае крылоўскую байку «Слон і Моська». У нашым выпадку відавочна, хто ў якой ролі выступае. Часам, услед за кіраўнікамі рэспублікі, воляй-няволяй задаешся пытаннем: а ці патрэбныя – сапраўды – *такія* прафсаюзы? Калі не могуць абараніць нават самі сябе, то каго яны ўвогуле могуць абараніць?

З другога боку, абсалютна незразумела, чаму ўлады так нервова ўспрымаюць «незгаворлівасць» афіцыйных прафсаюзаў? ФПБ на чале з цяперашнім кіраўніцтвам церпіць усё: і «наезды», і абразы, і непрыхаваную хлусню, толькі час ад часу асмельваючыся агрызнуцца. Дый то неяк вяла і неахвотна. Але далей гэтага справа не ідзе. Дзе, у якой краіне які прафсаюз мае такое рахманае і бязвольнае кіраўніцтва? Знайсці больш падобнае можа і не ўдасца. ■

**Коллектив редакции НАШАЙ СВАБОДЫ выражает соболезнования В.РОЖКОВУ в связи с постигшим его горем — смертью отца**

# Югаслаўская апазіцыя выйшла на вуліцы

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Як паведамляе агенцтва *Associated Press*, у пятніцу ўвечары каля 4.000 шахцёраў на буйнейшым у Югаславіі рудніку Калубара склалі свае інструменты і наладзілі страйк. У нядзелю да іх далучыліся, паводле агенцтва *Beta*, каля 1.000 шахцёраў з Кашталяца.

Таксама ў нядзелю сербская паліцыя ачапіла месца правядзення страйку ў Калубары і спрабавала прымусіць шахцёраў разысціся. Справа ў тым, што калі страйк на Калубары працягнецца хаця б тыдзень, то ў Югаславіі пачнецца энергетычны крызіс, і ўся краіна можа пагрузіцца ў цемру. Тым не менш, учора паліцыя дазволіла некалькім тысячам чалавек прайсці праз паліцэйскія шэрагі і далучыцца да ўдзельнікаў страйку.



Страйк на Калубары вельмі важны для апазіцыі яшчэ і таму, што раён Лазарэвац, дзе знаходзіцца шахта, заўсёды быў аплотам Сацыялістычнай партыі Сербіі Слабадана Мілошавіча. Калі цяпер страйкі ідуць нават там, то гэта яшчэ раз сведчыць, што стан у краіне надзвычай пагоршыўся.

У прамысловым горадзе Чачак (150 км на поўдзень ад Бялграда), дзе жыве каля 80.000 чалавек, не менш за 10.000 жыхароў бяруць удзел у беспрапыннай акцыі пратэсту – на галоўнай плошчы горада яны мітынгуюць ужо больш за тыдзень, як удзень, так і ўначы.

У самім Бялградзе ўдзельнікам акцыі ўдалося перакрыць адзін з найважнейшых мастоў у горадзе – Бранкаў мост. Кіроўцы таксі машынамі перакрываюць дарогі і беспрапынна сігналяць.

Мілан Проціч, апазіцыйны палітык і кандыдат на пасаду мэра Бялграда, заявіў: «Яны не захацелі лічыць нашы бюлетэні, таму цяпер ім даводзіцца лічыць нас на вуліцах».

Восем мясцовых радыёстанцыяў у Сербіі, якія знаходзіліся пад кантролем сацыялістаў, паведамілі, што больш не будуць перадаваць у эфір афіцыйных праграмаў. Іхнія кіраўнікі заявілі, што цяпер станцыі будуць даносіць аб'ектыўную інфармацыю.

Улады Югаславіі папярэдзілі студэнтаў, што любы ўдзел у акцыях непадпарадкавання «незаконны» і будзе карацца.

Лідэры апазіцыі заклікаюць народ не паддавацца на правакацыі і правесці ўсе акцыі мірна. «Ніводная кропля крыві не мусіць праліцца», — заявіў Вук Драшкавіч, адзін з прадстаўнікоў апазіцыі. Калі С.Мілошавіч вырашыць прымяніць сілу для разгону маніфестантаў, то сотні тысяч грамадзянаў Сербіі пойдуць маршам на Бялград, заявіў ён.

На Слабадана Мілошавіча аказваецца ўсё больш ціск з боку замежных дзяржаваў. Кіраўніцтва Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, ЗША і іншых краінаў заклікалі яго добраахвотна пайсці з пасады, якую той займаў ужо 13 гадоў. Прэзідэнт суседняй Румыніі Эміль Канстанцінеску звярнуўся да С.Мілошавіча з заклікам прызнаць паразу, а таксама павіншаваў В.Каштуніцу з ягонай «гістарычнай перамогай». Нават Уладзімір Пуцін, прэзідэнт ледзьве не адзінай краіны-саюзніцы Югаславіі, прызнаў перамогу В.Каштуніцы, але заявіў, што «выбары ў Югаславіі – гэта ўнутраная справа краіны».

Слабадан Мілошавіч адхіліў прапанову Расіі аб пасярэдніцтве ў вырашэнні ўнутрыпалітычнага канфлікту. Ён у катэгарычнай форме адмовіўся прыняць расійскага міністра замежных справаў Ігара Іванова і заявіў, што **«югаславы самі вырашаць свой лёс».**

1 кастрычніка адбылася сустрэча сына Слабадана Мілошавіча, Марка, з прадстаўнікамі апазіцыі. На ёй было заяўлена, што Мілошавіч-старэйшы не збіраецца здаваця і пакідаць сваю пасаду. Прамова Марка Мілошавіча, якога суправаджалі тры целаахоўнікі, доўжылася 10 хвілінаў і была дастаткова агрэсіўнай.

Тым часам брытанская газета *Guardian* паведаміла, што С.Мілошавіч шукае для сябе і сваёй сям'і палітычнага прытулку. Напрыклад, у Расіі. «Слабадан Мілошавіч і ягоная сям'я шукаюць кантактаў з Расіяй і збіраюцца перабрацца туды. Гэта можа быць адным з шляхоў выйсця. А таксія шляхі С.Мілошавіч шукае», – сцвярджае адзін брусельскі чыноўнік, які пажадаў застацца неназваным, у інтэрв'ю *Guardian*. Згодна з інфармацыяй газеты, сям'я Слабадана Мілошавіча ўжо знаходзіцца ў Расіі, дзе працуе Надзвычайным і Паўнамоцным амбасадарам Югаславіі ягоны брат Барыслаў.

У нядзелю ў Югаславіі пачалі друкаваць выбарчыя бюлетэні да другога тура прэзідэнцкіх выбараў, прызначанага на 8 кастрычніка. У спісе – два імя: Слабадана Мілошавіча і Ваіслава Каштуніцы. Мяркуецца, што будзе надрукавана 7.861.421 бюлетэняў – па агульнай колькасці выбаршчыкаў. Але яшчэ за некалькі дзён да таго В.Каштуніца адмовіўся ўдзельнічаць у другім туры – ён лічыць, што ўжо перамог. ■

## Представитель ООН разрушает эмбарго

**Василий ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**В мире существуют государства, в отношении которых, по разным причинам, Организация Объединенных Наций наложила эмбарго. Одним из таких государств является Турецкая Республика Северного Кипра (ТРСК). Однако, в последнее время различные структуры ООН пытаются найти пути, которые бы позволили снятию эмбарго, из-за которого, как правило, страдают простые люди.**

Недавно в ее столице г.Лефкоше (Никосия) по итогам прошедшего международного семинара, в котором приняли участие представители 22 стран мира, состоялась пресс-конференция. Выступивший на ней почетный президент Азиатской федерации клубов и ассоциаций ЮНЕСКО Рама Гунасингам заявил, что на семинаре обсуждались вопросы работы средств массовой информации. Это мероприятие помогло наладить сотрудничество структуры ООН с Северным Кипром. Как сообщила Служба общественной информации ТРСК, представитель ООН Р.Гунасингам, возглавляющий также и Международный центр по борьбе с употреблением наркотиков в школах, отметил, что прошедший столь представительный форум «разрушил эмбарго, наложенное на Турецкую Республику Северного Кипра». Это создало основу для успешной реализации другого намечающегося форума под названием «Роль практикующих специалистов в области средств массовой информации в здоровом спортивном воспитании без наркотиков в школах и организациях», который будет организован Международным центром по борьбе с употреблением наркотиков в школах в сотрудничестве с Турецкой ассоциацией спортивных обозревателей Кипра и Турецким Советом по прессе Кипра с 4 по 5-е мая 2001 года в Турецкой Республике Северный Кипр в связи с Днем свободы прессы ООН - ЮНЕСКО.

Рама Гунасингам подчеркнул, что эта тема является социальным вопросом и будет полностью поддержана средствами массовой информации. В мероприятии, которое пройдет в тесном сотрудничестве с программой ООН по контролю над наркотиками, ЮНЕСКО, ВОЗ и другими международными неправительственными организациями, примут участие 500 делегатов со 100 стран мира для того, чтобы обсудить эту важную международную инициативу. Среди делегатов будут и представители Республики Беларусь. ■

**ІНТЭРФАКС**

## Каждый третий китаец – горожанин

Численность городского населения Китая составляет около 400 млн. человек. Эти данные содержатся в результатах статистического исследования, опубликованного в Китае. Таким образом в 668 крупных и 19 тысячах мелких городов проживают 30,9 % всего населения Китая, насчитывающего 1,2 млрд. человек. Однако уровень урбанизации страны ниже аналогичного среднего показателя для всего мира, который составляет 42%. За последние 20 лет темпы урбанизации страны ежегодно увеличивались на 0,63% в год, что в два раза выше, чем в среднем в мире, говорится в исследовании. К 2010 году Китай планирует увеличить уровень урбанизации в стране до 40%. ■

## В Голландии легализуется проституция

Голландия станет первой в мире страной, где будет легализована проституция. С воскресенья вступает в силу закон, в соответствии с которым публичные дома рассматриваются отныне как обычные коммерческие предприятия, подчиняющиеся общепринятым правилам в области налогообложения, охраны труда и санитарных норм. Запрещается также противодействовать их открытию из соображений «соблюдения морали».

Сторонники этого решения считают, что поскольку, как показывает опыт многих стран, борьба с проституцией бесперспективна, то нужно постараться улучшить условия работы тех, кто занимается ею добровольно. Одновременно власти намерены усилить борьбу с принудительной проституцией и сексуальной эксплуатацией малолетних. Так, с 1 октября срок тюремного заключения за принуждение к проституции увеличивается с одного года до шести лет. Отныне будут также подвергаться судебному преследованию те, кто прибегает к «сексуальным услугам» несовершеннолетних. Новый закон может в первую очередь коснуться обосновавшихся в Голландии многочисленных «жриц любви» из других стран, прежде всего из Восточной Европы. По данным полиции, примерно половина проституток прибыла из государств, не входящих в Европейский Союз, и большинство из них не имеет разрешения на трудовую деятельность.




# Зло «золотого треугольника»

**Виктор ВИКТОРОВ**

**Недавняя показательная акция в столице Таиланда Бангкоке, как и ожидалось, привлекла толпы зрителей. На одной из городских площадей под усиленной охраной полиции подготовлено место для костра. Внушительная кипа свертков из пластика обильно полита бензином. Вспыхивает пламя, распространяется тяжелый, дурманящий смрад. Так уничтожается очередная партия наркотиков, несколько сот килограммов опиума-сырца и героина. На черном рынке этот товар мог бы принести наркодельцам десятки, а то и сотни миллионов долларов. Впрочем, как борцы с наркобизнесом, так и его организаторы прекрасно понимают, что в очередном костре оказалась лишь малая часть смертоносного зелья.**

Центр его производства, причем крупнейший на планете, расположен недалеко от места описываемых событий, на стыке границ Таиланда, Лаоса и Мьянмы (бывшей Бирмы). Этот малонаселенный, гористый, покрытый труднопроходимыми тропическими лесами район Юго-Восточной Азии называют «золотым треугольником». Плодородные горные луга уже давно превращены в плантации для опиумного мака. Собираемый урожай перерабатывается в опиум-сырец, а затем в героин. Более двух третей всех наркотиков героиновой группы на мировой рынок поступает именно из района «золотого треугольника».

Наркобизнес в «золотом треугольнике» четко организован, у него отлаженная иерархия главарей. Один из наиболее могущественных – Кхун Са, прозванный «генералом джунглей». Его биография обросла легендами и недомолвками. Говорят, что его отцом был богатый китаец, женившийся на шанхайской принцессе. В юности Кхун Са стал «сыном полка» одной из частей армии Чан Кайши, воевавшей на территории южного Китая и Бирмы. После победы коммунистов в Китае Кхун Са всерьез занялся наркобизнесом и вскоре вошел в десятку крупнейших торговцев опиумом. Его называют также «принцем белой смерти». Под контролем Кхун Са в «золотом треугольнике» вырабатывается героин 98% чистоты, так называемый «белый китаец».

Для этих людей выращивание опиумного мака – практически единственный источник существования. Для Кхун Са их труд – источник доходов в сотни миллионов долларов. Собственная армия «генерала джунглей», насчитывающая несколько тысяч человек, уже давно и вполне успешно противостоит регулярным войскам Мьянмы, время от времени проводящим профилактические операции в районе «золотого треугольника». Впрочем, военная хунта, стоящая у власти в Мьянме, судя по всему, смотрит на процветающий под боком наркобизнес и его главаря сквозь пальцы. Поговаривают, что небескорыстно. Во всяком случае, генералы из правительства в столице Мьянмы Янгоне до сих пор не пресекли преступную деятельность «генерала джунглей», хотя и получают специально на эти цели финансовую помощь от международных организаций.

А вот в ряде ближайших к «золотому треугольнику» стран – Малайзии, Индонезии, Таиланде, Китае против наркобизнеса приняты суровые законы. За продажу или провоз всего нескольких граммов зелья грозит смертная казнь. Однако в сети полиции и спецслужб чаще всего попадают лишь мелкие розничные торговцы или курьеры. Крупные наркобароны остаются недосягаемыми, а масштабы преступного промысла, несмотря на все контрмеры, продолжают нарастать. Секрет такого тревожного парадокса достаточно прозрачен – колоссальная прибыль, которую приносит контрабанда «белой смерти». Ежегодный торговый оборот наркотиков, проникающих на мировой черный рынок из стран Юго-Восточной Азии, оценивается астрономической суммой – более чем в пятьсот миллиардов долларов. ■

